

# Ніва



ГОД I № 21 БЕЛАСТОК. 22 ЛІПЕНЯ 1956 г. ЦАНА 60 гр.





ПЯТРУСЬ БРОУКА

## СЯБРЫ

(урыўкі)

Палеская рэчка Нізяна,
Дрымотныя пушчы, бары!
Хадзілі між вас
Партызаны —
Два добрых і шчырых сябры.

Расказваць я не бяруся.
Калі падружыліся,
Як?
Быў Пётра Падгол беларусам,
А Юзэф Галкоўскі — паляк.

Хадзілі вясною зялёнай
І ўзімку.
І ў часе слаты —
Скідалі яны эшалоны,
Узрывалі дарогі, масты.

Бо чулі — за кроўную справу
На бойку
Іх сэрцы завуць —
За родныя М... к і Варшаву,
За горад любімы Маскву.

Нямала цяжкога пазналі.
Нямала
Панішчылі зграй,
З баямі яны прычакалі,
Што вольным стаў кожнага край

І далей у бітвах няспынных —
Скрозь бачылі
Верных сяброў

Ім толькі пасля ўжо Берліна
Вярнуцца прыпала дамоў.

Прыйшлі яны з даляў паходных,
Вітаючы
Радасны час —
Галкоўскі — у горад свой родны,
Падгол — у любімы калгас.

Чакалі іх горад і вёска,
Чакала іх праца
Вакол.
Стаў мулярам Юзэф Галкоўскі,
Брыгаду ўзначаліў Падгол.

За справу ім выпала ўзяцца,
Ды так,
Каб гудзела ў руках,
У мірнай, напружанай працы
Былі, як салдаты ў баях.

Натхнёным працоўнаю славай
Ім выпала

Многа зрабіць —
Падгол чуў — красуе Варшава,
Дык, значыць, таварыш не спіць.

Прыходзіла вестак багата
З палёў беларускіх
І сёл...
І думаў Галкоўскі, а як там
Працуе таварыш Падгол?

* * *

Найлепш усялякіх багаццяў
Сяброўства,
Што вечна жыве, —
Сустрэцца прыпала ім шчасце
Выпадкам у самай Маскве.

На выстаўцы светлай, вясёлай,
Якая
Спявала цвіла,
Сустрэўся Галкоўскі з Падгола ,
Гарачай сустрэча была

На плошчах людской перамогі,
Паміж павільёнаў,
Садоў —
Звялі іх з Варшавы дарогі
І з ціхіх палескіх палёў.

* * *

— Зямля пад аблогам, пустая,
А ў нас —
Толькі рукі адны,
Ты-ж добра і сам памятаеш,
Якімі мы выйшлі з вайны.

Мы гора нямала сустрэлі,
Магіл дарагіх
Не злічыць.
А плакаць і часу не мелі,
Мы зналі адзінае: жыць!

Мы часта не спалі начамі,
Спакою
Не любіць наш час.
Ты бачыў, што зроблена намі,
Не разам стаў гэткім калгас.

Аралі мы дзёран заўзята.
Кругом церабілі
Кусты,
І ладзілі клеці і хаты,
І сад пасадзілі густы.

Здабыткі спачатку малымі,
Прыкметнымі
Ледзьве былі,
Ды кажучы шчыра — адны мы
Не гэтак-бы хутка ўзраслі.

Раслі мы ў сяброўстве адданым,
Таварышаў родных,
Сваіх.
Ты помніш той круг ля фантанаў —
Шаснаццаць сясцёр залатых?

* * *

Галкоўскі спыняе: — Мой друж...
Ты дай расказаць ... не
Сваё —
Я госць у Савецкім Саюзе,
Шчаслівае сэрца маё!

Я рады з табою спаткацца,
Таварыш
І прыяцель мой,
Паслухай, і я сваім шчасцем
Хачу падзяліцца з табой.

*Працяг на стар. 5.*

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

Палкоўнік К.А. МАЛАНІН

# БАІ ЗА БЕЛАСТОК

Самым моцным і важным вузлом чыгунак і шасейных дарог на шляху, які вёў у напрамку Варшавы — быў Беласток.

Фашысты стварылі тут узброеную базу супроць савецкага войска.

Асабліва моцна забяспечыліся ад усходу, уздоўж заходняга берага ракі Супрасль.

У гэтай мясцовасці былі вельмі спрыяльныя ўмовы да ўпартай абароны. Савецкае войска знайшлося ў цяжкіх абставінах. Недахоп адпаведных дарог і забалочаная навокал мясцовасці не стварылі спрыяльных умоў для правядзення наступлення на гітлераўцаў. Таму манеўр быў вельмі сціснуты. Адзіная шасейная дарога на шляху Беласток — Ваўкавыск была замінаванай ворагам, а масты паўзрываны.

Фашыцкае камандаванне імкнулася затрымаць нашае войска на рацэ Свіслач, а ў найгоршым выпадку, у ваколіцы Беластока. Для абароны перад савецкім войскам фашысты атрымалі падмацаванні. Даставілена ім адну танкавую, адну матарызаваную і адну пяхотную дывізіі. Апроч гэтага, Беластоцкі гарнізон узмацніўся брыгадай штурмовых гармат. Пачаткова былі нават прысланы ў дапамогу эсэсоўскія і паліцэйскія часці.

Раніцай 17 ліпеня, на рацэ Свіслач, пасля магутнай артылерыйскай і авіяцыйнай падрыхтоўкі, пачалося наступленне савецкіх войскаў.

Войскі 2-га Беларускага фронта прарвалі абарону ворага, пашырылі і ўзмацнілі наступленне, і накіраваліся на захад. Прайшлі 15 кіламетраў. Пад вечар авалодалі раённым цэнтрам Беластоцкага ваяводства, — горадам і чыгуначнай станцыяй Свіслач, і Вялікай Бераставіцай.

Гэткім чынам савецкія войскі ужо ў першыя дні наступлення, глыбока ўрэзаўшыся ў размяшчэнне варожай абароны, паспяхова развівалі наступленне па ваўкавыскаму шасэ на Беласток. Фашысты не вытрымоўвалі напору, пачалі адступаць на захад, на раней падрыхтаваны рубеж, на заходнім беразе ракі Свіслач.

Ворагі задумалі затрымаць тут савецкія войскі, дапоўніць новымі сіламі свае часці. Такім чынам фашыцкае камандаванне вырашыла нелапусціць прарыва савецкіх войск к Беластоку.

Пайшлі, крывавыя, заўзятыя баі. Некаторыя мясцовасці па некалькі разоў пераходзілі з рук у рукі.

На рубяжы ракі Свіслач працягваліся яны пяць сутак. Пасля разгрому недабітых раней і новадастаўленых атрадаў, — войскі 2-га Беларускага фронта маглі перайсці ў наступленне на шырокім фронце.

22 ліпеня быў заняты буйны, апорны пункт абароны ворага — чыгуначная станцыя Кузніца, раённы цэнтр Беластоцкага ваяводства, — гор. Крынкі і мнагаселены пункт — Нараў.

Асабліва ўпартыя баі развіліся на поўночным усходзе Беластока. Прасоўванне савецкіх войскаў у гэтым напрамку пагражала працяглаку ўтрачваннем важнейшых камунікацый вядучых ва Усходнюю Прусію і нарушвала ўзаемадзейнасць паміж гродзенскай і беластоцкай групіроўкамі праціўніка.

Каб затрымаць наступленне — фашысты падрыхтоўвалі шматлікія лясныя завалы, мініравалі дарогі і лясныя сцежкі. Праціўнік беспераўпынна пераходзіў у контратакі. Палоннікі інфармавалі, што Беласток меўся быць варотамі ва Усходнюю Прусію, а сваім салдатам камандаванне загадала не адступаць ні на крок.

Узнятыя поспехам, 24 ліпеня савецкія войскі канчаткова авалодалі раённым цэнтрам Беластоцкага ваяводства, — вузлом шасейных дарог і мястэчкам Саколка.

У сувязі з заняццем нашымі войскамі Кузніцы і Саколкі, гітлераўцы былі пазбаўлены чыгуначнай станцыі Гродна — Беласток.

З боем фарсіравана раку Супрасль, а 25 ліпеня занята густаселены пункт — мястэчка Супрасль. 25 ліпеня, пры дапамозе авіяцыі фронта, войскі пад камандаваннем генерала Гарбатава А. В непасрэдна падышлі да самага Беластока і раніцай наступнага дня завязалі баі на яго вуліцах.

Вялікую ролю адыграла тут самаходная артылерыя, якая з'явілася ядром штурмуючых войскаў.

Фашысты імкнуліся не адступаць ад горада і абараніць пазіцыі да Усходняй Прусіі.

У бой накіравана шмат танкаў і авіяцыі. Ноччу на 27 ліпеня на вуліцах горада праходзілі цяжкія, напружаныя баі.

Вельмі добра разгарнулася наступленне і левай часткі фронта.

Пасля заняцця 22 ліпеня Нарвы, на другі дзень савецкія войскі авалодалі чыгуначнай станцыяй Жэдня ,якая знаходзіцца ў аддегласці 18 кіламетраў на поўначны ўсход ад Беластока, а 24 ліпеня вызвалілі густанаселены пункт Камянка.

Апрача таго, захоплена 13 цяжкіх гармат, 500 тон калючага дроту і вялікі склад боепрыпасаў. ,

Працягвалася наступленне ўздоўж Ваўкавыскага шасэ з усходу.

Карыстаючыся тым, што галоўныя сілы ворага былі накіраваны на абарону на поўнач і поўдзень горада — войскі фронта наступаючы ў цэнтры — прыспяшылі маршрут. 23 ліпеня савецкія войскі ізноў займаюць Баброўнікі, якія раней былі вымушаны пакінуць у выніку моцных контратакаў ворага.

Калі на вуліцах трываюць завяршальныя баі — савецкая авіяцыя нішчыць падмацаванні падсыланыя нямецкаму беластоцкаму гарнізону.

У гэты рашаючы момант на лініях галоўных контратакаў ворага лётчыкі знішчылі 20 танкаў і больш 40 гармат.

27 ліпеня 1944 г. пасля двухднёвага бою, войскі 2-га Беларускага фронта штурмам авалодалі горадам Беласток.

Дарога ва Усходнюю Прусію была адкрыта. Рэшткі разбітых часцін ворага ўздоўж ракі Супрасль адыходзілі да берагоў Нарвы, Бабра і падаваліся на захад. Войскі фронта працягвалі наступленні да германскай граніцы.




---

С. ЯНОВІЧ **(2)**

# Родная глухамань

Днела. З захаду наплывалі шэрыя, у бледным святле золаку, маленькія воблачкі. Над хмызняком дакучліва каркалі вароны. З-над росных ніў даносіліся звонкія пералівы жаўручных песняў.

Пятро стомлена апусціўся з надваконніка на ложка. Хіліла спаць. Яшчэ раз працягнуў далонямі па твары быццам мыючыся ў халодных струменнях пераліваючагася праз адчыненае акно, ранішняга паветра.

„Няўжо я закахаўся... няўжо гэта мажлівае так, з першай сустрэчы... не, не гэта хіба нейкі прывід або... папросту як вынік даўно адчуванага імкнення да сапраўднага, шчырага, вялікага кахання, якога яшчэ ніколі поўна не перажыў", — з нейкай таемнай вясёласцю на душы, сонна раздумліваў Пятро.

Але тут зноў ахоплівала ўсю яго душу неякае папярэджанне, якаясь незразумелая асцярожнасць. Успомнілася першае каханне ў якім потым быў знеэжальна адштурхнуты, балюча ашуканы. Ужо колькі разоў стараўся адгануць таямніцу сваёй першай жыццёвай трагедыі але так і нічога не атрымлівалася з гэтых раздумаў. Відаць занадта яшчэ балючыя сляды, каб магчы аб'ектыўна разважаць. З гэтага ўсяго шторaз больш умацоўвалася ў яго думцы адно бязлітаснае пераканаyне да ўсіх жанчын.

— «Што за абязбройваючая дзяўчына» — ужо засынаючы некалькі разоў паўтарыў у думцы.

Раптам вока ў вока з'явілася перад ім Марыся з такой простай, шчырай, чароўнай усмешкай. Нейк падплыла амаль да самога Пятра і апусціўшы вейкі прамовіла: — Дзякую вам... табе, Пятро.

Пятро пільна глядзеў у шчылінкі яе вачэй і чуў, што нехапае яму паветра. На момант ахутала ўсё імгла... потым прыемна казыталі пятровы віскі злёгку пакручаныя над ілбом марысіны валаскі. Яна час - ад - часу весела пазірала на Пятра і забаўна ўсміхалася слухаючы яго слоў. Навокал шматгалосна гаманіў натоўп вясковай моладзі. Чуліся смехі, ускрыкі і павіскванні дзяўчат. Пасля ўсё неяк пачало блытацца... з'явіўся нейкі плот, апяразаючы густую, буйную зеляніну саду... ізноў аднекуль вынырнуў марысін твар.

Паволі крочылі да яе хаты. Недзе над хвалямі млечнабелага тумана загаралася зарава золаку. Ужо было хацеў мацней прыгарнуць яе стан да сябе, як яна пужліва вырвалася з яго рук і пабегла да брамкі. Пятро хвіліну паглядзеў за ёю і хуценька пабег услед. Марыся стаяла па той бок і залётна пазірала на яго. Пятро цераз шчыкеты прабаваў схапіць яе за рукі але Марыся хутка адбегла на ўсходы ганка і ціха прамовіла: — Дабранач, Пятро, дабранач... — і бязлітасна зачыніліся за ёю дзверы сенцаў. Пятро ўсхваляваны стаяў ля прыадчыненай брамкі і тупа глядзеў на гэтыя дзверы, якія так хутка схавалі за сабой Марысю»...

— «Пятрочак, уставай ужо час на цягнік, ну, ўставай» — як праз імглу пачуў цёплы матчыны голас.

— «Эх чорт вазьмі» — падсвядома са злосцю падумаў Пятро і неахвоча расплюшчыў вочы. Чорт вазьмі з гэтай працай — з жалем уголас закончыў, разглядаючы знаёмыя сцены пакоя.

Было ўжо зусім відна. У акне асляпляюча зяяла ўзыходзячае сонца. На кухні чуліся спешлівыя крокі маці і бразгат пасуды...

Як гэта заўжды рабіў, Пятро гвалтоўна ўсхапіўся з ложка і не праціраючы вачэй, машынальна пачаў адзявацца. Ад нявыспанасці рабілася слаба ў грудзях. Абяссільваюча дрыжэлі стомленыя танцамі, неадпачытыя ногі.

* * *

Праз усю дарогу з касцёла Марыся засяроджана маўчала. Хвілінамі нават не чула дакучлівых каментарыяў маці, якая безупынна рабіла шырокія набожныя вывады з апошняга казання ксяндза.

— „Пятро... эх ты, Пятро... — міжвольна паўтарала ў думцы. Абяцаў сягоння быць на забаве. Які ён дзіўны, нясмелы, такі трошкі смешнаваты... Вось гэта не тое, што Рыгор.

— Нарэшце ўжо хата — з палёгкай у голасе загаварыла маці. Не магу цяпер так шпарка хадзіць. Вось калісь, яшчэ за маёй маладосці, што мне значыла перайсціся з касцёлка а... а цяпер...

Увайшоўшы ў хату, Марыся пайшла ў пакой пераапрануцца. Наблізіўшыся да люстэрка, падсунула бліжэй крэсла, стомлена прысела і пачала прыглядацца да самой сябе.

— Няўжо я такая прыгожая — жартоўна сумнявалася. Якое тут у мяне харавство. Загарэлы як у цыганкі твар, шурпатая шкура, гладкія, бліщчастыя валасы ды і наогул нічога тут не бачу асаблів..."

— Маня, глянь хто ідзе да нас — пачуліся з кухні ўзрадаваныя словы маці. Толькі глянь...

Да брамкі падыходзіў Рыгор Лакшавец, сынок вясковага багацея. Апошнім часам Рыгару нешта захацелася ажаніцца. І вось прыкмеціў сабе Марысю.

— Добры вечар... ці добры дзень, усёроўна — падпітым баском паспрабаваў пажартаваць, з галасам зачыняючы за сабою дзверы.

— Добры дзень, Рыгорка, добры дзень — ветліва загаманіла маці. Марыся, чуеш, прасі Рыгорку далей. Праходзь, яна ў пакоі, праходзь...

Заскрыпела пад цяжкай хадою падлога, прарэзліва заскрыгатала клямка... і з-за дзвярэй паволі высунуўся прымільна ўсміхаючыйся, узбуджаны алкаголям рыгаровы твар.

Марыся хутка адскочыўшы ад люстэрка, сарамліва глядзела на хістаючагася Рыгара, на яго памяты, шэры ад прапіткі твар і ў яе дзесь глыбока, глыбока ў душы пачало нараджацца пачуццё агіды да гэтага чалавека.

— Добры, добры дзень Маня — лісліва прамовіў Рыгор. Прыйшоў праведаць цябе. Табе адной напэўна вельмі сумна...

— Ды не, дзякую — запінаючыся адказала Марыся.

Працяг будзе.

